наша
# СВАБОДА
№46 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

4 ЖНІЎНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Што рабіць з Беларуссю?

Рыгор БУЯН

**Еўрапейскія эксперты не ведаюць, як вырашыць «беларускае пытанне». Вось ужо больш за паўгода Еўропа не можа вызначыцца — накіроўваць назіральнікаў на парламенцкія выбары 15 кастрычніка ці не? Ад гэтага залежыць, ці будзе прызнаная палата прадстаўнікоў законнай дай на міжнародным узроўні. Для таго, каб канчаткова вызначыць сваю пазіцыю па гэтым пытанні, у Мінск прыехала дэлегацыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.**



Першы рабочы дзень — 1 жніўня — старшыня камітэта па палітычных пытаннях ПА СЕ Тэры Дэвіс, адмысловы дакладчык па Беларусі Вольфганг Берэндт і дакладчык ад камітэта па правах чалавека і юрыдычных пытаннях Цырыла Свобада пачалі сустрэчай са старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай. Кіраўнік ЦВК даводзіла еўрапейцам, што «сам Выбарчы кодэкс дае дастатковую аснову для правядзення свабодных дэмакратычных справядлівых выбараў». Прычым асобны акцэнт Л.Ярмошына зрабіла на тым, што так мяркуе не толькі яна: «гэта толькі маё меркаванне, такая ж думка і ў экспертаў венецыянскай камісіі (камісія Савета Еўропы), гэта думка Цэнтрвыбаркама Расіі». У якасці пацверджання дэмакратычнасці выбарчага заканадаўства Лідзія Ярмошына прывяла вылучэнне Партыяй камуністаў Беларускай і Ліберальна-дэмакратычнай партыяй сваіх прадстаўнікоў у акруговыя выбарчыя камісіі. На яе думку – доказ неаспрэчны.

Зрэшты, і першы намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Уладзімір Замяталін, і міністр юстыцыі Генадзь Варанцоў, і прэм'ер са старшынёй палаты прадстаўнікоў параконвалі місію Савета Еўропы ў адным: Беларусь гатовая правесці свабодныя дэмакратычныя выбары. Праўда, ніхто з чыноўнікаў не ўзгадаў пра тое, што ніводная з чатырох умоваў, пастаўленых перад уладамі АБСЕ, не выкананая. Палітычны пераслед апанентаў рэжыму не скончыўся, апазіцыя не атрымала доступу да электронных сродкаў масавай інфармацыі, парламент па-ранейшаму не мае амаль ніякіх уладных паўнамоцтваў, а «клімат даверу» ў беларускім грамадстве не ўсталяваўся – улада так і не пайшла на перамовы з апазіцыяй.

Пра гэтыя праблемы еўрапейцы і выказаліся падчас сустрэчы з Уладзімірам Ярмошыным. «Мы сказалі яму, што вельмі расчараваныя вынікам грамадскага дыялога. Ён папрасіў прывесці канкрэтныя прыклады, і мы яму іх прывялі: прыклады тычацца пытанняў СМІ і прэсы. Мы толькі што правялі сустрэчу з прадстаўнікамі праваабарончых арганізацыяў і з роднымі тых, хто знаходзіцца ў турмах або знік. Інфармацыя ад праваабаронцаў была вельмі карыснаю, мы слухалі вельмі ўважліва і выказалі сваю салідарнасць з сем'ямі зняволеных і тых, хто знік. Мы таксама выказалі сваё расчараванне тым, што міліцыя да гэтага часу не здолела расследаваць гэтыя справы».

Пад занавес візіту, 3 жніўня, «тройка ПА СЕ» сабрала за «круглым сталом» прадстаўнікоў урада і апазіцыі, каб з удзелам усіх бакоў пагаварыць пра выбары. Напярэдадні гэтага мерапрыемства ўлады прапанавалі ўключыць у сваю дэлегацыю прадстаўнікоў 6-ці партыяў, што ідуць на выбары. Каб аднавіць раўнавагу, КСАПП са свайго боку запрасіў на сустрэчу членаў прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання. «Круглы стол» прайшоў чамусьці за зачыненымі дзвярыма. Гэта азначае, што за чатыры дні працы ў Мінску місія ПА СЕ так і не знайшла адказу на пытанне «што рабіць?». ■

## Вертикаль уходит за ширму Советов

Никита ПАВЛОВ

Не успели демократические партии провести Всебелорусский съезд и принять единогласно Акт о независимости, как Александр Лукашенко не замедлил объявить о созыве Съезда Советов. Около полутора тысяч депутатов всех уровней, включая нелегитимных палаточников, соберутся 29 сентября, чтобы принять альтернативные решения Всебелорусскому съезду, который, по странному стечению обстоятельств, тоже прошел 29 числа.

Чтобы упредить желание оппозиционеров собраться еще раз накануне президентских выборов в будущем году, А.Лукашенко намерен весной провести Второе Всебелорусское Собрание.

Если демократические партии собрались, чтобы бороться за независимость, то депутаты будут решать вопросы наращивания экспорта, строительства жилья и развития агропромышленного комплекса. Это так сказать первоочередные стратегические задачи. По ходу дела собравшиеся конкретизируют вопросы структурной трансформации экономики, реформирования отношений собственности, создания действенной конкуренции товаропроизводителей. Не понятно только, если все эти проблемы можно решить одним съездом депутатов, то почему такие форумы не проводятся раз в неделю?

Стоит ли напоминать, что проведение съезда продиктовано необходимостью всенародной поддержки широкой общественной инициативы населения, повышения социально-политической активности граждан, реализации идей социального правового государства и решения важных государственных проблем в духе гражданского согласия. Ни больше, ни меньше.

Очевидно, что Александр Лукашенко напуган инициативой творческой элиты Беларуси, сумевшей собрать под знамена Всебелорусского съезда все оппозиционные силы. Но он все еще не понимает, что людей объединяет угроза потери независимости, а не проблема развития села. ■

## Які сюрпрыз чакае экс-прэм'ера ў Вярхоўным судзе

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Справа Міхаіла Чыгіра будзе перагледжаная ў Вярхоўным судзе 18 жніўня. Пра гэта экс-прэм'еру і ягоным адвакатам паведамілі пазаўчора ў гарадскім судзе Мінска, дзе адбываўся першы разгляд справы. Аднак Міхаіл Чыгір, які сам ініцыяваў касацыйны перагляд справы, не ў асаблівым захапленні ад гэтай навіны. «Суддзяў яўна прыспешваюць. Не выключаю, што ад уладаў прыйшоў загад найхутчэй пацвердзіць ранейшае рашэнне гарадскога суда, каб я лічыўся асуджаным і не змог удзельнічаць у парламенцкіх выбарах», – кажа экс-прэм'ер.

Адвакаты Міхаіла Чыгіра ўказваюць на не менш як два прынцыповыя парушэнні працэсуальнага кодэкса, якія зрабілі суддзі. Што справу перадалі ў Вярхоўны суд, не дачакаўшыся, калі адвакаты азнаёмяцца з пратаколам працэсу, і што не далі абароне ўнесці свае заўвагі на пратэст пракуратуры, вынесены літаральна напярэдадні. Пра гэтыя парушэнні ўжо заяўлена ў адмысловым прэс-рэлізе, што распаўсюджаны для медыя, а таксама паведамлена прадстаўнікам ПА СЕ, якія прыехалі ў Беларусь.

Нагадаем, летась у траўні экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір быў прызнаны вінаватым у злоўжыванні службовым становішчам і асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады. Таксама яго абавязалі выплаціць у бюджэт суму, роўную 210 тысячам долараў, у пакрыццё, быццам бы, нанесеных дзяржаве стратаў і забаранілі выязджаць з краіны. Міхаіл Чыгір, аднак, вінаватым сябе не прызнаў і абскардзіў прысуд у Вярхоўным судзе. Ён спадзяецца на тое, што суд вышэйшай інстанцыі прызнае яго невінаватым, і па-ранейшаму не адмаўляецца ад прэтэнзіяў на пасаду прэзідэнта. Таксама Чыгір не выключае, што будзе балатавацца ў Нацыянальны сход. Ці сапраўды ўлада вырашыла паставіць крыж на парламенцкіх праектах Чыгіра, стане вядома 18 жніўня. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **«Дажынкі» сёлета пройдуць 22-23 верасня ў Шклове.** 2 жніўня на паседжанні аргкамітэта «Дажынак» у Савеце міністраў пад старшынствам віцэ-прэм'ера Аляксандра Папкова менавіта гэтыя дні названыя ў якасці прыкладнай даты правядзення свята ўраджаю. Нагадаем, што летась шырока разрэкламаваныя «Дажынкі» так і не адбыліся.

■ **Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) лічыць, што буйнейшыя тытунёвыя кампаніі, каб захаваць прыбыткі, выкарыстоўваюць «брудныя трукі» для яе дыскрэдытацыі.** СААЗ апублікавала спецыяльны даклад, дзе даказваецца, што пачынаючы з 1988 году тытунёвыя фірмы на чале з *Philip Morris* выдаткоўвалі для гэтай мэты вялікія сумы: на іх наймаліся журналісты, задачай якіх былі адсочванне сябраў камісіі СААЗ па паленні, збор і распаўсюджванне кампраматных чутак і нават зрывы прэс-канферэнцыяў, а таксама засылаліся шпіёны, якія паведамлялі тытунёвым кампаніям пра ўсе, што рыхтуюцца, міжнародныя акцыі і выкрадалі канфідэнцыйныя матэрыялы.

■ **Патрыярх Маскоўскі і Усяя Русі Алексій II заявіў, што гатовы сустрэцца з папам рымскім Янам Паўлам II толькі пры ўмове, калі будуць зліквідаваныя «перашкоды, існуючыя ў адносінах паміж дзвюма царквамі».** Учора ў інтэрв'ю газеце *Corriere della Serra* ён сказаў, што такіх перашкодаў дзве: «пераслед праваслаўных хрысціянаў з боку грэка-каталікоў у Заходняй Украіне і празелітызм каталіцкіх царкоўных структураў сярод традыцыйна праваслаўнага насельніцтва на кананічнай тэрыторыі Рускай праваслаўнай царквы».

■ **Колішні прэзідэнт Польшчы і заснавальнік прафсаюза «Салідарнасць» Лех Валенса абвінавачў польскія спецслужбы ў фальсіфікацыі дакументаў з мэтай перашкодзіць яму ўзяць удзел у прэзідэнцкіх выбарах, прызначаных на 8 кастрычніка.** Ён заявіў, што «ўсе дакументы, якія былі ці будуць прадстаўленыя суду, які правярае мае сувязі з сакрэтнымі службамі ў гады камуністычнага рэжыму, — падрыхтаваныя пазней фальшыўкі». Паводле прынятага летась закона, калі гэта будзе даказана, тыя, хто супрацоўнічаў з органамі бяспекі тады, калі ва ўладзе знаходзілася кампартыя, на працягу 10 гадоў не мае права займаць высокія пасады ў дзяржаўнай адміністрацыі.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 985**

**стар. 6**

# Выходок в эфир не будет?

## Неожиданный резонанс телекадровых изменений

Дмитрий КОЛО

**Некоторые наблюдатели после полной смены руководства Национальной гостелерадиокомпании сочли, что Александр Лукашенко решил сделать приятное своему тезке Зимовскому, отблагодарив его за верную службу повышением до зампреда компании. Между тем это в корне неверно. На самом деле автору «Резонанса» теперь придется туго.**

Ведь ныне он является должностным лицом, одним из руководителей телевидения, а посему его запросто можно обвинить в использовании служебного положения.

Так что теперь г-ну Зимовскому следует быть более осторожным. Назовешь кого-нибудь с экрана отморозками – жди суда, и не такого, какого добилась Вера Максимовна Терлюкевич (о защите чести и достоинства). Недовольные телезрители воскресной передачи отныне могут написать на Зимовского жалобу его начальнику Виктору Чикину, а если ответ не будет их удовлетворять или реакции не последует вовсе – имеют полное право в месячный срок подать в Первомайский районный суд Минска жалобу на неправомерные действия должностного лица. Пошлина, правда, довольно высока – 5 минимальных зарплат, или 13 тысяч рублей, — но чего не сделаешь ради любимой телезвезды? К тому же можно выступать с коллективными жалобами и платить пошлину вскладчину.

Боюсь, несчастный райсуд скоро будет завален многочисленными обращениями благодарных зрителей «Резонанса» из всех районов Беларуси, а самому Зимовскому придется большую часть времени проводить не в рабочем кабинете на улице Макаенка, а в зале суда на бульваре Толбухина. Ведь можно обжаловать любые действия должностного лица, нарушающего права граждан, тем более права на получение объективной и достоверной информации.

По некоторым данным, в первичные организации оппозиционных партий в регионах страны уже направлены настойливые пожелания из центра не оставлять без внимания воскресные выходки в эфир г-на Зимовского и в случае чего сразу писать г-ну Чикину, а потом прямо в суд. ■

## В Беларуси готовится «зачистка»

н ДЕМИДОВ

Как сообщило Всесоюзное агентство «Интерфакс» на своем сайте в интернете, на сентябрь в Беларуси запланировано проведение так называемой зачистки. Согласно секретному плану, сразу после окончания отпускного сезона, но до начала выборов в палату представителей предполагается одновременная тщательная проверка избирателей и их квартир. Это будет обосновано необходимостью, во-первых, сверки списков избирателей, а в-вторых, поисков пропавших Ю.Захаренко, В.Гончара, А.Красовского и Д.Завадского. По мнению источника в президентской администрации, на который ссылается «Интерфакс», данная акция позволит официальному Минску парировать обвинения Запада в недостаточном расследовании случаев исчезновения известных людей, а также осуществить психологическое давление на каждого избирателя в месте его проживания. ■

# Беларускі шчыт для Расіі

Марыя ГАМОН

Расійская радыёлакацыйная станцыя (РЛС) «Волга» ўжо ў канцы гэтага года пачне дзейнічаць пад Баранавічамі. Як стала вядома з расійскіх крыніцаў, цяпер ідуць папярэднія выпрабаванні РЛС.

Генеральны дырэктар НДІ далёкай радыёсувязі Сяргей Сапрыкін правёў прэс-канферэнцыю, на якой заявіў: лакатары, падобныя «Волзе», «у сістэме папярэджання ракетнага нападзення забяспечваюць асноўны фактар ядзернага стрымання, гарантуюць неадваротнасць пакарання магчымага агрэсара». С.Сапрыкін падкрэсліў, што РЛС тыпу «Волга» «вызначаюць не толькі кропку падзення балістычнай ракеты, але і кропку яе старту, тым самым забяспечваючы дакладны своечасовы адказ».

Як сцвярджаюць расійскія эксперты, РЛС «Волга» па сваіх тэхнічных рашэннях з'яўляецца ідэалам высокапатэнцыйнага лакатара. Аднак, за высокую якасць даводзіцца плаціць высокую цану.

Хоць з Беларусі расійскія войскі ўжо даўно выведзеныя, наша краіна зноў панічнае інтэгравацца ў расійскую сістэму абароны. Пакуль што мы толькі ўтрымліваем на сваёй зямлі чужую радыёлакацыйную станцыю. Але што прыйдзе ўслед за ёй. Можа, ядзерная зброя «саюзніка»? ■

# Міліцыянты з нячышчанай зброяй

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

Па ўсіх райаддзелах унутраных справаў Гродзенскай вобласці праехала рэйдавая брыгада, каб спраўдзіць чысціню і парадак. Вынікі праверкі надрукавала газета «Милицейский вестник».

Атрымалася, што часцяком міліцыя працуе, не зважаючы на бруд і гармідар у сябе. Няма мыйных і дэзінфіцыруючых сродкаў. Шпалеры—старыя, напалову адклееныя. У Свіслачы і Гродне перад уваходам у будынкі—брудныя сметніцы. Часам нават шыбы пабітыя, прычым з фасаднага боку. У некаторых месцах даўным-даўно не рабіўся рамонт. У Бераставіцы ў пакоі для адпачынку дзяжурнага—паламаныя крэслы, у занядбаным стане спартыўная зала, у скрыньцы для пяску—смецце. У Зэльве ў вальеры для сабакі не прыбрана, расце пустазелле. Дзіва што, калі міліцыянты нярэдка не прыбіраюць нават у сваіх памяшканнях. У Карэлічах не прыбраны падворак, вароты навешаныя абы-як—крыва. У Воранаве міліцыянтам нават няма дзе памыцца. У Кастрычніцкім РАУС Гродна на двары ў прыбіральні брудна, не праводзіцца дэзінфекцыя.

Цікава, што асобна адзначаны непарадак у пытаннях зброі. Напрыклад, у двух РАУС няма масла для чысткі зброі. Яшчэ ў двух своечасова не складаюцца справаздачы аб выдаткаванні патронаў. У Смаргоні: «У пакоі захавання зброі не працуе сігналізацыя, няма вогнетушыльніка, свяцільня—без плафона». У Мастах таксама непарадкі ў памяшканні для захоўвання зброі, няма стала для яго чысткі. А начальства не здало справаздачу аб скапфіскаванай і зданай добраахвотна зброі яшчэ за першы квартал года. Ну, а ў Шчучыне, як адзначана праверкай, зброя захоўваецца ўвогуле бруднай. ■

ЮБІЛЕІ

# Дело Ленина похоронили в Хельсинки

## 25 лет Хельсинкским соглашениям

Владимир КОРСУНСКИЙ

**1 августа 1975 года Генсек ЦК КПСС Л.Брежнев в столице Финляндии подписал акт о капитуляции мирового коммунизма. Свидетелями безоговорочной сдачи стали представители 33 европейских государств, а также США и Канады. В человеческой истории подписанный документ известен как Заключительный акт Совещания по безопасности и сотрудничеству в Европе (СБСЕ).**

Забавно, что до самой смерти Брежнева никто из руководителей СССР, похоже, так и не понял, что же за документ на самом деле был подписан в Хельсинки. Они считали Хельсинкский заключительный акт своей серьезной политической победой, поскольку он закреплял послевоенные границы в Европе и позволял СССР сидеть за одним столом с демократическими развитыми государствами. Считалось, что акт поможет получать кредиты у развитых стран и одновременно активизировать процесс заражения их территорий коммунистической идеологией.

На «права человека» и прочую идеалистическую ерунду, которая и составила содержание «третьей корзины» соглашений, никто серьезного внимания не обратил.

Однако не прошло и десяти лет, как стало очевидно, что ставка на мораль и права человека в политике предпочтительнее группового нахрапа, как в производстве современного государства компьютер предпочтительнее армии заключенных каналоармейцев с лопатами.

В последнее время положение стало меняться. Не то чтобы ведущие российские политики, предприниматели, деятели искусств и журналисты принялись публиковать мемуары в серии «Я родом из стукачей». Нет. Но отношение к сотрудникам спецслужб, всякого рода провокаторам и доносчикам стало если не более терпимым, то более наплевательским. Что, в конечном счете, одно и то же.

То, что ключевые посты в государстве давно находятся в руках выпускников различных спецшкол КГБ КПСС и их сексотов, — тема для отдельного разговора. А вот то, что причина этого не только в тщательной селекции элиты прежней системой, но и в органической непонятности нашими согражданами словосочетания «права человека», — непосредственно относится к серебряному юбилею Хельсинкского заключительного акта.

Через 25 лет после Хельсинки «права человека» все еще не переведены на русский язык. Точнее, все существующие переводы нельзя назвать пригодными для массового употребления. А без массового употребления этого понятия невозможно возникновение гражданского общества. А без гражданского общества нельзя добиться осуществления человеческих прав.

Надо признать, что власть не заинтересована в изменении существующего порядка ценностей. Она по-прежнему готова утверждать приоритет права государства над правами отдельного человека. И пока мы не сумеем научиться человеческому отношению к себе самим и добиться того же от своего государства, нам остается лишь надеяться на лучшее. ■



# Берастравіцкі суд рэпрэсіраваў святара

## Хто аддае загады аб здзеках за іншадумства?

Сяргей МАКСІМОВІЧ

**Тыдзень таму ў пасёлку Пагранічны адбыўся інцыдэнт, які не меў месца пасля пераследу святароў у часы сталінскіх рэпрэсіяў.**

У царкву ўварваліся міліцыянты і начапілі святару Івану Спасюку кайданкі. Толькі за тое, што ён хоча зарэгістраваць у Пагранічным прыход Беларускай народнай праваслаўнай царквы, а не Рускай праваслаўнай з маскоўскім патрыярхам на чале.

Айцу Івану ўдалося вырвацца, ён заскочыў у сваю машыну, зачыніўся і ўключыў сігналізацыю. Дзеянні міліцыянтаў і аўтасірэна прыцягнулі ўвагу навакольных жыхароў. Святару пашанцавала ўцячы. Забраўшы сям'ю, ён у другой палове дня з'явіўся ў Гродне, дзе хацеў папрасіць абароны ў польскім Генеральным консульстве. У гэтым яму было адмоўлена. Бацюшка ў святарскай шаце з двума крыжамі на шыі з кайданкамі на руках дзве гадзіны чакаў пад брамай консульства. Каля яго былі журналісты і прадстаўнік Хельсінкскага камітэта А.Сідзігаеў. Затым прыехала опергрупа крымінальнага вышуку, якая прагнула завезці бацюшку «на гутарку» да сябе. Аднак гэта не атрымалася. Затое міліцыянты адабралі ў Спасюка пашпарт. Ён спадзяецца, што з дапамогай замежных дыпламатаў у АБСЕ яму ўдасца дамагчыся, каб улады перасталі яго пераследаваць і зарэгістравалі ў Пагранічным ягоны прыход Беларускай народнай праваслаўнай царквы.

У аўторак, 1 жніўня, І.Спасюк падаў заяву ў абласную пракуратуру, у якой указаў факты пераследу яго з боку праваахоўных органаў. Высветлілася, аднак, што нідзе не зафіксаваны выпадкі сутыкнення міліцыянтаў са Спасюком. Не было нават пратакола адносна таго, што яму былі начэпленыя падчас царкоўнай службы кайданкі. Гэта здарылася ў мінулую пятніцу ў Пагранічным. Але святар мае фотаздымкі, на якіх адлюстраванае здарэнне.

Затым І.Спасюк падаў заяву ў Ленінскую пракуратуру Гродна, у якой прасіў вярнуць ягоны пашпарт, забраны гродзенскімі міліцыянтамі. Калі ён прыйшоў у другой палове дня па пашпарт, яго з трыма ягонымі малымі дзецьмі пасадзілі ў міліцэйскі мікрааўтобус і завезлі ў Берастравіцу ў раённы суд. Паседжанне адміністратыўнага суда адбывалася некалькі хвілінаў. Бацюшку далі пяць сутак арышту — за непадпарадкаванне міліцыі. Яго адразу забралі, а дзяцей завезлі ў райбальніцу, куды па іх пазней прыехала матушка. ■



# Васіль Лявонаў выйдзе на волю?

Рыгор БУЯН

Былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў, які адбывае чатыры гады пазбаўлення волі ў Аршанскай калоніі ўзмоцненага рэжыму, можа патрапіць пад амністыю, і яму скароціць год зняволення. Гэта азначае, што ўжо сёлета 11 лістапада экс-міністр можа выйсці на волю. Пра гэта заявіла адвакат асуджанага Вольга Зудава.

В.Лявонаў быў арыштаваны 11 лістапада 1997 года на працоўным месцы ў сваім кабінеце міністра сельскай гаспадаркі і харчавання. Напачатку былога міністра, як і яго калегу Васіля Старавойтава, абвінавачвалі ў арганізацыі заказнога забойства старшыні Камітэта дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага. Аднак доказаць гэтыя абвінавачванні следству не ўдалося, таму ў выніку Васіля Лявонава абвінавацілі ў крадзяжы дзяржаўнай маёмасці ў асабліва буйных памерах і атрыманні хабару. Суд прысудзіў В.Лявонава да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму. Экс-міністр прызнаны як беларускімі праваабаронцамі, так і міжнароднымі арганізацыямі «вязнем сумлення», а справа ягоная лічыцца палітычнай. ■

